ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КНІГА НОША

№ 41
снежань, 2016

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ:

# «...Верш нельга ўціскаць у нейкія рамкі»



**– Шаноўны спадар Алесь, нядаўна выйшла кніга Вашых перакладаў вершаў Галіны Пасвятоўскай «Ідалапаклонніца». Чым прывабіла Вас творчасць гэтай паэткі і як адбіралі вершы для перакладу?**

– На адным літаратурным партале я прачытаў вершы тады яшчэ невядомай мне паэткі Галіны Пасвятоўскай. Потым знайшоў яе біяграфію ў Вікіпедыі, пачаў шукаць іншыя творы, лазіць па форумах. І выявілася, што яна дасюль вельмі папулярная на сваёй айчыне, хаця пасля яе смерці мінула амаль пяцьдзясят гадоў. Мяне, як чытача, прывабіла менавіта чысціня і прастата, з якой аўтарка казала пра каханне і смерць – гэтыя тэмы былі асноўнымі ў яе творчасці. Паэтка ведала, што кожны верш, які з'яўляецца на паперы, можа стаць апошнім. Да гэтага часу я не думаў, што можна пісаць так. Глыбіня пачуццяў, жарсці, якія чытаюцца ў кожным радку, вядома, не маглі пакінуць абыякавым. І я вырашыў перакласці некалькі твораў, якія мне вельмі падабаліся. Потым была падборка ў часопісе, а праз некаторы час пачалася праца з кніжкай.

Улічваючы, што дагэтуль вершы Пасвятоўскай па-беларуску амаль не з'яўляліся, мне падалося лагічным шырэй пазнаёміць нашага чытача з яе творчасцю, таму я адабраў самыя лепшыя, на мой погляд, творы з усіх выдадзеных зборнікаў, і атрымалася такая прыгожая кніга. Вершы змешчаны такім чынам, як у самым поўным на сённяшні момант паэтычным зборы «Halina Poświatowska. Wszystkie wiersze».

**– Вашыя пераклады высока ацэненыя вядомымі пісьменнікамі і перакладчыкамі. Вы сталі пераможцам літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна за пераклады з польскай літаратуры: Эвы Ліпскай, Адама Загаеўскага і Галіны Пасвятоўскай, занялі 2 месца на конкурсе мастацкіх перакладаў вершаў Віславы Шымборскай (ва Ўроцлаве, Польшча). Якіх правілаў трэба прытрымлівацца, каб зрабіць якасны пераклад?**

– Не ведаю, ці магу казаць пра нейкія правілы, бо, па шчырасці, і сам іх не ведаю. Я яшчэ вельмі малады перакладчык і сам раблю столькі памылак, што не ведаю, ці магу казаць пра нейкія парады, але за той кароткі час працы з перакладамі ў мяне было багата практыкі, нейкіх знаходак і адкрыццяў, якімі магу падзяліцца.

*(Працяг на стар. 7)* ➲

**Даведка «Кніганошы»:**

**Алесь Емяльянаў-Шыловіч – паэт, бард, перакладчык. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць» (2013). Нарадзіўся ў 1987 годзе ў г. Крычаве. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Бічэль Данута. Выбраныя творы. Прадмова Марыі Новік. – Мінск: Беларуская навука, 2016. – 604 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

Данута Бічэль (нар. 1937) – паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). У кнізе, апрача вершаў, змешчаны яе пераклады, а таксама вялікі раздзел успамінаў і эсэ «Пра тых, каго помню і люблю».




**Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі. У 4 т. Т. 1 . Уклад.: С. У. Калядка, Т. П. Аўсяннікава; рэд. тома Л. Г. Кісялёва. – Мінск: Беларуская навука, 2016. – 599 с., [6] л. іл.**

Змест першага тома чатырохтомнага выдання складаюць вершы Я. Янішчыц, прыжыццёва апублікаваныя ў шасці паэтычных зборніках паэтэсы і кнізе выбранай паэзіі. Упершыню вершы прадстаўлены разам з літаратуразнаўчымі і навуковымі каментарыямі да іх. Таксама ў томе чытач знойдзе ўступны біяграфічны артыкул, хроніку жыцця і творчасці, радаводы па лініі маці і бацькі, матэрыялы пра паэтэсу, пададзеныя ў храналагічным парадку, успаміны родных, суседзяў, аднакласнікаў, настаўнікаў.




**Скобла Міхась. Камізэлька для месяца: паэзія. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 232 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 19).**

Кніга «Камізэлька для месяца» – і пэўнае падсумаванне, і працяг шляху паэта, які запомніўся чытачам адметнай вобразнасцю, яскрава-нацыянальнай метафорыкай, пазбаўленай мудрагельства філасафічнасцю. «Паэтычнае мысленне Міхася Скоблы цэласнае, у ім не разарваныя зямля і неба, жыццё і смерць, карані і вецце; там усё жывое, і ўсё – адно ў адным» (У. Някляеў). Асобны раздзел склалі пераклады з польскай, украінскай і літоўскай паэзіі.




**Суса Эва. Снежны чалавек у Мінску. Мастак Кацярына Дубовік; пер. са швед. Дзмітрыя Плакса. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 36 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 13).**

Беларускія дзеткі ўжо знаёмыя са Снежным чалавекам, а гэтым разам ён завітаў да іх у Мінск! У кнізе вядомай шведскай пісьменніцы Эвы Суса казачны свет перасякаецца са штодзённасцю, і нават ля плошчы Перамогі, у цэнтры беларускай сталіцы, можна сустрэць сапраўднага Снежнага чалавека!

Для чытання дзецям малодшага школьнага ўзросту.




**Барадулін Рыгор. Дзённікі і запісы. Выпуск 3. 1979–1982. Укл., прадм., Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 340 с. [8] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3).**

Трэці выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1979–1982» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна змяшчае запісы аб працяглых паездках паэта на Кубу, у Балгарыю, Італію, Чэхаславакію, у многія рэспублікі Савецкага Саюза, а таксама па Беларусі. Запісы рабочых штодзённікаў і нататнікаў малююць вобраз нястомнага працаўніка, бясконца закаханага ў роднае слова паэта, шчырага сябра і ўважлівага да любых праяваў жыцця назіральніка. Кнігу дапаўняюць сяброўскія эпіграмы, віншаванні і, канечне ж, вершы, якія не ўваходзілі ў зборнікі паэта ці наогул не друкаваліся.




**Жырандоля: літаратурны альманах. Брэст. № 8, 2016. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 246 с.**

Восьмы выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» складаюць творы розных жанраў і тэматыкі не толькі сяброў суполкі, але і маладых аўтараў. У раздзеле паэзіі змешчаны вершы Анатоля і Васіля Дэбішаў, Алены Ігнацюк і інш. Проза прадстаўленая творамі Анатоля Дэбіша, Яўгена Бяласіна, Паўла Ляхновіча і інш. Раздзел «Памяць» утрымлівае артыкулы да юбілею Васіля Гадулькі і Уладзіміра Кітаеўскага.




**Пасвятоўска Галіна. Ідалапаклонніца: вершы. Пер. А. Емяльянава-Шыловіча. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 88 с.**

Упершыню ўвазе беларускага чытача прадстаўлены вершы знанай і папулярнай польскай паэткі XX стагоддзя Галіны Пасвятоўскай. Яе непаўторная, глыбока інтымная і кранальная лірыка не пакіне абыякавымі аматараў прыгожага пісьменства. Кніга складаецца з выбраных твораў паэткі ў перакладзе Алеся Емяльянава-Шыловіча.




**Ліндэрборг Оса. Я не належу нікому: раман. Пераклад са шведскай: Я. Гарунова, Н. Варашыліна. – Брэст: Альтэрнатыва, 2016. – 228 с.**

У аўтабіяграфічным рамане «Я не належу нікому» Оса Ліндэрборг выклала на паперы гісторыю свайго жыцця і дазволіла ўсім да яго далучыцца. Кніга пра дзяцінства і сталенне ў шведскім горадзе Вэстэрос з татам-алкаголікам прыцягнула шмат увагі і вылучалася на прэмію імя Аўгуста Стрындберга. Раман перакладзены на пяць моваў і выдаваўся ў Нарвегіі, Фінляндыі, Галандыі, Даніі ды Германіі.




**Качаткова Паліна. Гняздо-2: апаведы і аповесць. — Мінск: Галіяфы, 2016. – 338 с.**

У кнізе «Гняздо-2» аб'яднаныя апавяданні 1987–1990 гадоў, тэксты, напісаныя пасля 2012 года, а таксама аповесць «Паэт». Творы Паліны Качатковай у многім містычныя, яны апісваюць таемнае жыццё звычайных людзей, жывёлаў і рэчаў. Гэта містыка горада, зямлі, вады, холаду. Узнікае пытанне: адкуль аўтарка бярэ сюжэты для творчасці, ці шмат у ёй прыдуманага, калі ўлічыць, што большасць герояў і месцаў выглядаюць досыць рэалістычна?




**Аркуш Алесь. Песні ля Замкавай гары: вершы. – Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2015. – 216 с.**

Новую кнігу Алеся Аркуша склалі вершы, напісаныя ў 1985–2014 гадах. «Асноўная ідэя зборніка – бег часу, адчуванне, разуменне, спасціжэнне ідэалу. А таксама – нацыянальная ідэя як аснова трываласці свету», – піша ва ўступным артыкуле да кнігі Алена Ніякоўская.




**Аркуш Алесь. Захоп Беларусі марсіянамі: раман. – Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2016. – 140 с.**

Падзеі ў рамане «Захоп Беларусі марсіянамі» адбываюцца ў сярэдзіне 20-х гадоў мінулага стагоддзя і на пачатку XXI стагоддзя пераважна ў Полацку. Сярод галоўных герояў твора вядомыя гістарычныя асобы: паэты Алесь Дудар і Міхась Чарот, палітычны дзеяч, гісторык і пісьменнік Вацлаў Ластоўскі. У 1925 годзе ў Полацк прыехаў Алесь Дудар, адзін са стваральнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У старажытным горадзе над Дзвіной ён павінен заснаваць філію сваёй пісьменніцкай арганізацыі...




**Штэйнер Іван. Кот-ваявода: смяхотная штука. – Мінск, 2015. – 170 с.**

У жартаўліва-саркастычным стылі апавядаецца аб дзіўнай гісторыі, што здарылася зусім нядаўна на Палессі, аб незвычайных учынках людзей, якія трапілі ў зачараванае кола яе ўплываў. На новым этапе эвалюцыі ўзнаўляюцца і класічныя традыцыі народнай смехавой культуры, якія сведчаць, што чалавек зусім не змяніўся за апошнія дзве тысячы гадоў, як і не змяніліся ягоныя жаданні і жарсці, мары аб шчасці і радасці, надзеі на лепшую долю, дзеля здабыцця якіх ён адважваецца на якую хочаш авантуру. Высновы аўтара пацверджаны трапнымі выслоўямі вялікіх філосафаў, найперш славутага Эразма Ратэрдамскага.




**Гадулька Васіль. Па-над сцежкай лёсу. – Беласток, 2016. – 200 с.**

Выданне прыўрочана да 70-годдзя брэсцкага паэта з-пад Жабінкі Васіля Гадулькі (1946–1993), аўтара пасмяротных паэтычных кніг «Голас» (2004, Мінск, выдавецтва «Літаратура і Мастацтва») і «Клён зялёны на пустым падворку» ў калектыўным зборніку «Незабыўныя галасы» (2008, Мінск, выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Цяперашняе выданне спадчыны таленавітага паэта «Па-над сцежкай лёсу» пашырае абсягі яго творчага плёну, дадаючы невядомыя і непублікаваныя тэксты, а таксама сканаваныя пазнакі яго нялёгкага правінцыйнага жыцця.




**Бадлер Шарль. Выбраныя вершы. Пер. з французскай Андрэя Хадановіча. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 112 с. (Паэты планеты).**

Пачынальнік французскай паэзіі сімвалізму, бацька т. зв. «выклятых паэтаў» Шарль Бадлер (1821–1867) быў цэнтральнаю постаццю літаратурнага дэкадансу. Яго кніга лірыкі «Кветкі Зла», упершыню выдадзеная ў 1857 г., да сёння сведчыць пра неверагодныя магчымасці паэтычнага слова. Пераствораныя па-беларуску сучасным паэтам Андрэем Хадановічам, вершы Бадлера дазваляюць прачытаць іх шмат у чым па-новаму.




**Рыльке Райнэр Марыя. Выбраная лірыка. Пер. з ням. Васіля Сёмухі. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 128 с. (Паэты планеты).**

У творах аднаго з пачынальнікаў новай паэзіі Райнэра Марыя Рыльке (1875–1926) – багацце мелодыяў і рытмаў, поліфанія жыцця творчай асобы на памежжы цывілізацыяў і эпох. Па-беларуску паэзію Рыльке перастварыў Васіль Сёмуха, класік сучаснага беларускага мастацкага перакладу. Некалькі перакладаў у гэтай кнізе друкуецца ўпершыню.




**Хаям Умар. Выбраныя рубаі. Пер. з фарсі-кабулі Рыгора Барадуліна. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 92 с. (Паэты планеты).**

Умар Хаям (1048–1131) у Сярэднія вякі быў знакамітым вучоным: матэматыкам, астраномам, філосафам і астролагам. Сёння ў Еўропе, у тым ліку ў нашай краіне, яго ведаюць перш за ўсё як непаўторнага паэта персідскай мовы, аўтара чатырохрадкоўяў («рубаі»). З дапамогай моваведнаўцы Валерыя Чамбарысава творы Умара Хаяма збеларусіў наш народны паэт Рыгор Барадулін. У кнізе таксама падаюцца іх арыгіналы.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Быкаў Васіль. Жоўты пясочак: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 288 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву (1924–2003) апошнія пяць гадоў жыцця наканавана было правесці ў эміграцыі: у ласкавай да беларусаў Швецыі, у Фінляндыі па запросінах тамтэйшага ПЭН-клуба, у Нямеччыне, супраць вайскоўцаў якой ваяваў ён падчас Другой сусветнай вайны лейтэнантам-артылерыстам, у Чэхіі па асабістым запрашэнні прэзідэнта Вацлава Гаўла. Там і былі напісаныя многія быкаўскія шэдэўры кароткай прозы – навелы і апавяданні, прысвечаныя Слуцкаму збройнаму чыну 1920 года, трагічным сцэнам вайны, сталінскім рэпрэсіям, іншым векапомным падзеям нашае гісторыі, а таксама прыпавесці і літаратурныя казкі, у якіх творца сягае надзвычайных вышынь у асэнсаванні адвечных ісцін, б'е ў звон, каб вывесці суайчыннікаў са стану сацыяльнага здранцвення.




**Тарасаў Кастусь. Тры жыцці княгіні Рагнеды. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 192 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Кастусь Тарасаў – адзін з найлепшых майстроў беларускай гістарычнай прозы. Яго яскравы літаратурны талент разам з энцыклапедычнымі ведамі і неверагодна глыбокім і тонкім адчуваннем мінулага падаравалі нам цэлую бібліятэку выдатных твораў.

Аповесць «Тры жыцці княгіні Рагнеды» прысвечаная драматычнаму лёсу дачкі нашага першага вядомага з летапісаў князя Рагвалода. Непакорлівая і верная роднай зямлі княгіня здолела ўратаваць свой род, а тым самым і незалежнасць Полацкага княства.




**Тарасаў Кастусь. Скарбы князёў Радзівілаў, альбо обер-аўдытарская праверка ў Нясвіжы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 288 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Імя Кастуся Тарасава ў беларускай літаратуры стаіць побач з імем Уладзіміра Караткевіча. Гэтыя знакамітыя пісьменнікі цудоўна дапаўняюць адзін аднаго. Калі Караткевіч уваскрашаў атмасферу і каларыт даўніны, то Тарасаў даваў другое жыццё рэальным гістарычным асобам. Ён неверагодна глыбока ведаў і адчуваў гісторыю – яе матэрыяльны свет разам з патаемнымі рухамі чалавечай душы.

«Скарбы князёў Радзівілаў...» – твор, які не проста захапляе і не адпускае. Ён выводзіць чытачоў за межы літаратурнага сюжэта, пакідаючы надзею ўсім шукальнікам старадаўніх скарбаў.

**Караткевіч Уладзімір. Зброя. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 160 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**




Гістарычная аповесць «Зброя» тэматычна знітаваная з раманам «Каласы пад сярпом тваім», але гэта не працяг, а своеасаблівае адгалінаванне ад выдатнага эпічнага твору.

Сярод герояў аповесці – ужо знаёмыя чытачам «Каласоў» Алесь Загорскі, Мсціслаў Маеўскі, браты Кандрат і Андрэй Кагуты. Дзеянне адбываецца ў 1862 годзе ў Маскве, куды Алесь са сваімі сябрамі прыязджае па даручэнні Кастуся Каліноўскага здабываць зброю будучым паўстанцам. Гэта ці не самы антыімперскі твор Караткевіча, у якім надзвычай жорстка выкрываецца самадзяржаўны лад царскай Расіі сярэдзіны пазамінулага стагоддзя.

Беларускі пісьменнік расказаў пра «золатагаловую» і яе тагачасныя норавы адметна і яскрава, не саступаючы ў майстэрстве свайму цёзку Уладзіміру Гіляроўскаму з ягонай знакамітай кнігай «Масква і масквічы».




**Маўр Янка. Чалавек ідзе: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 176 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Янка Маўр (1883–1971) творча засвойваў традыцыі Жуля Верна і Фенімора Купера, Майн Рыда і Луі Бусенара, Аляксандра Дзюма і Герберта Уэлса. Яго заслужана лічаць заснавальнікам прыгодніцкага жанру ў нашым прыгожым пісьменстве, стваральнікам і неаспрэчным класікам беларускай літаратуры для дзяцей і падлеткаў.

Ужо першая, навукова-фантастычная аповесць тагачаснага 43-гадовага настаўніка гісторыі і геаграфіі «Чалавек ідзе», якая плённа спалучала пазнавальнасць і прыгодніцтва, стала бестсэлерам. У ёй аўтар знайшоў удалы мастацкі ход – першабытны чалавек, нібыта дзіця, усё спазнае ўпершыню: распальвае першае вогнішча, першы раз падымае на драпежнага звера ўзброеную руку, на ягоных вуснах першы раз з'яўляецца ўсмешка, а на вачах – першая слязінка...




**Маўр Янка. Амок. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2016. – 310 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Дзеянне рамана «Амок», назвай якога Янка Маўр кінуў творчы выклік аўстрыйскаму празаіку Стэфану Цвейгу, адбываецца на інданезійскай выспе Ява. Паўстанне тубыльцаў супраць галандскіх каланізатараў на караблі «Саардам» хутка ператварылася ва ўпартую барацьбу прыгнечаных за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

Энцыклапедычныя веды, шырокая і грунтоўная дакументальная дасведчанасць пра падзеі, плённая перапіска з калегамі-эсперантыстамі па ўсім свеце, памножаныя на творчае ўяўленне і пісьменніцкі талент, дазволілі Янку Маўру стварыць надзвычай цікавае, адметнае і запамінальнае палатно.




**У святле астралогіі. Лёсы беларускіх літаратараў. Уклад. Мікола Кандратаў. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 232 с.**

Аўтары кнігі «У святле астралогіі» імкнуцца патлумачыць лёсы і важныя моманты жыцця вядомых беларускіх літаратараў мінулага, карыстаючыся для гэтага авестыйскай астралогіяй як інструментам.

Чым абумоўленая вялікая любоў Адама Міцкевіча да роднай зямлі? Што паспрыяла Францішку Багушэвічу стацца першапраходнікам беларускай літаратуры? Чаму так цесна злучаныя лёсы Янкі Купалы і Якуба Коласа? Ці дакладны час народзінаў Максіма Багдановіча? Як удалося Ларысе Геніюш вытрымаць жыццёвыя выпрабаванні і не скарыцца? З гіпотэзамі і адказамі на пададзеныя і іншыя пытанні вы можаце пазнаёміцца ў кнізе, якая паслядоўна апавядае пра прадстаўнікоў кожнага з 12 знакаў Задыяка ад Авена да Рыб.

Яна таксама будзе цікавай і карыснай тым, хто хоча атрымаць больш глыбокае ўяўленне пра астралогію і пра яе прыёмы і метады.




**«Асоба і час». Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 7. Уклад. В. Трыгубовіч, А. Фядута. – Мінск: Лімарыус, 2016. – 334 с.**

У сёмы выпуск беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час» увайшлі матэрыялы, прысвечаныя пісьменнікам Яну Баршчэўскаму, Францішку Багушэвічу і Юрыю Гуменюку, грамадскім і палітычным дзеячам Тэафіліі Сапезе, Францішку Малевічу, Аркадзю Смолічу. Упершыню друкуюцца захаваныя ў архівах вершы за і супраць Міхаіла Мураўёва-Віленскага. Асобны раздзел прысвечаны актыўнай дзяячцы нацыянальнага руху 1990-х гадоў Веры Чуйко.




**Масквін Андрэй. Беларускі тэатр 1920–1930-х: адабраная памяць. Пер. на бел. мову Марыі Пушкінай, Алены Пятровіч. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 438 с.**

Кніга Андрэя Масквіна «Беларускі тэатр 1920–1930-х: адабраная памяць» для нашага кантэксту ўнікальная. Гэта першае выданне, у якім не проста здзейсненая спроба рэканструкцыі беларускага тэатра перыяду ягонага прафесійнага станаўлення. У кнізе ўпершыню паўстае шмат імёнаў і падзеяў, якія ў савецкі перыяд былі выкрасленыя з нашай культурнай памяці. Крок па кроку рэканструююючы падзеі той пары, аўтар звяртаецца да крыніцаў, доўгія часы недаступных для даследчыкаў, такім чынам вяртаючы беларускаму тэатру ягоную памяць і гісторыю. Гэта той тэатр – па-сапраўднаму сучасны, авангардны і жывы, – які мог бы адбыцца, але трапіў пад нож рэпрэсіўнай машыны, маштаб дзейнасці якой для нашай культуры стаўся катастрафічным. Але памяць магчыма адрадзіць. Дзякуючы кнізе мы можам успомніць і вярнуць у гісторыю імёны людзей, чыімі намаганнямі фармавалася нашая культурная ідэнтычнасць, і з упэўненасцю сказаць: гэтыя высілкі не былі дарэмнымі.




**Арлоў Уладзімір. Валер Рубінчык: Беларускі рэжысёр сусветнага ўзроўню. – Мінск: Харвест, 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Валер Рубінчык (1940–2011) – выдатны беларускі кінарэжысёр. Сярод знятых ім фільмаў «Магіла льва» (1972), «Апошняе лета дзяцінства» (1974), «Вянок санетаў» (1976), «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979) шэраг іншых кінастужак, якія таленавіта распавядаюць пра старажытных і сучасных беларусаў.




**Марціновіч Алесь. Аляксандр Ельскі: Першы беларускі энцыклапедыст. – Мінск: Харвест, 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Аляксандр Ельскі (1834–1916) – публіцыст, перакладчык, літаратуразнаўца, краязнаўца, гісторык, этнограф, фалькларыст. Адзін з першых гісторыкаў беларускай літаратуры і збіральнікаў беларускіх рукапісаў. У сваім маёнтку стварыў музей беларускай даўніны. Ён адзін працаваў за цэлы даследчы інстытут. У канцы XIX – пачатку XX ст. А. Ельскі быў патрыярхам беларусазнаўства.




**Марціновіч Алесь. Змітрок Бядуля: «Будзь сам сабою, беларус...». – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Змітрок Бядуля (сапр. Самуіл Плаўнік, 1886–1941) – удзельнік нацыянальна-адраджэнцкага руху і адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Ён быў таленавітым празаікам, палымяным публіцыстам, яскравым літаратурным і тэатральным крытыкам, аўтарам пранікнёных твораў для дзяцей, добрым мемуарыстам. Творы Бядулі па сёння карыстаюцца цікавасцю сярод чытачоў.




**Астапенка Анатоль. Міхась Стральцоў: Гросмайстар беларускага слова. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Міхась Стральцоў (1937–1987) – выдатны паэт, празаік, літаратурны крытык, эсэіст, публіцыст, перакладчык. У сваіх творах ён добра паказаў тыя душэўныя выпрабаванні і спакусы, з якімі даводзіцца сустракацца сучасным беларусам. Ён аўтар шэдэўраў беларускай мастацкай літаратуры «Сена на асфальце» і «Смаленне вепрука», шэрагу цудоўных вершаў.




**Півавар Мікола. Гістарычнае краязнаўства Беларусі ў 1961–1991 гг.: манаграфія. – Віцебск: ВДУ імя П. М. Машэрава, 2016. – 216 с.**

У навуковым выданні знайшлі адлюстраванне асноўныя этапы развіцця гістарычнага краязнаўства Беларусі ў 1961–1991 гг. Прааналізаваны здабыткі і дасягненні, праблемы і недахопы савецкага перыяду ў дзяржаўным, грамадскім і школьным кірунках. Асобная глава прысвечана дзейнасці выдатных краязнаўцаў краіны. Можа быць цікавым для гісторыкаў, краязнаўцаў, студэнтаў.



**Антановіч Зінаіда. Архівы Магілёўскай і Мінскай рымска-каталіцкіх кансісторый: гісторыя, структура, склад дакументаў (1782–1918 гг.). – Мінск: Экоперспектива, 2016. – 224 с.**

На падставе шырокага кола крыніцаў з айчынных і замежных архівасховішчаў прадстаўлена адміністрацыйна-тэрытарыяльная і кіраўніцкая структура Магілёўскай і Мінскай рымска-каталіцкіх кансісторыяў, арганізацыя справаводства і архіўнай справы ва ўстановах, а таксама гісторыя захавання матэрыялаў іх дзейнасці. У манаграфіі прадстаўлены класіфікацыя і крыніцазнаўчы патэнцыял архіваў кансісторыяў і прыведзены аналіз іх захаванасці. Выданне разлічана на навуковых супрацоўнікаў, краязнаўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі Беларусі і памежжа канца XVIII – пачатку XX стст.




**Апанасевіч Антон. Лебедзеўская сага: Фрагменты гісторыі адной вёскі. – Мінск: А. А. Калоша, 2016. – 272 с.: іл.**

Вёска Лебедзева – жывая, квітнеючая, з багатай гістарычнай спадчынай і аптымістычным поглядам на будучыню. Гэтая кніга – пра вёску з паэтычнай назвай Лебедзева, пра яе людзей і гісторыю. Яе змест паказвае, наколькі даўняя, багатая і цікавая гісторыя былога мястэчка. Кніга дапамагае чытачу ўбачыць адметнасць духоўнага жыцця лебедзеўцаў, іх імкненне да творчасці. Кніга будзе карысная краязнаўцам, філолагам, гісторыкам, студэнтам і вучням.




**Адамковіч Аляксандр. Беларусы ў Літве: учора і сёння. Кніга II – З Богам па-беларуску. – Вільня: Асацыяцыя «Kryvija», 2016. – 364 с.: іл.**

Кніга прысвечана вывучэнню гісторыі беларусаў у Літве. У першай частцы на матэрыялах Літоўскага дзяржаўнага цэнтральнага архіва разглядаюцца факты беларускага рэлігійнага жыцця Віленскага краю за польскім часам (1921–1939 гг.). У другой частцы змешчаны інтэрв'ю з асобамі, якія ўдзельнічалі ў беларускім рэлігійным жыцці ў Літоўскай Рэспубліцы на мяжы XX–XXI стст.

Выданне адрасавана навукоўцам, выкладчыкам, студэнтам, краязнаўцам і ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй беларусаў за межамі сучаснай Беларусі.




**Кукабака Міхась. – Мінск, 2016. – 372 с., 69 іл.**

У дакументальнай кнізе, прысвечанай Міхасю Кукабаку – беларускаму іншадумцу і публіцысту часоў СССР, – адлюстраваныя невядомыя старонкі яго біяграфіі, а таксама прадстаўленыя публіцыстычныя творы і дакументы. Аснову кнігі складае інтэрв'ю з Міхасём Кукабакам, якое запісвалася на працягу трох дзён у лютым 2013 года ў Маскве.




**Жук Анатоль. 1920 год на Случчыне: гістарычна-краязнаўчы нарыс. – Мінск: Белстан, 2016 – 128 с.**

Гістарычна-краязнаўчы нарыс узнаўляе шэраг падзеяў, што адбываліся на тэрыторыі Слуцкага павета ў 1920 г. У кнізе выкарыстаныя архіўныя дакументы, успаміны ўдзельнікаў падзеяў 1920 г., публікацыі ў перыядычным друку.




**Пальянова Галина, Пальянова Ирина. Польский язык без трудностей перевода: справочное пособие. – Минск: Галіяфы, 2016. – 282 с.**

У кнізе прадстаўлены такія важныя лексічныя і граматычныя аспекты польскай мовы, як міжмоўныя амонімы і паронімы, шматзначныя словы і амонімы, месныя канструкцыі, род, лік назоўнікаў, дзеяслоўныя дэрывацыйныя спалучэнні, трыванне дзеяслова, дзеяслоўнае кіраванне, з выкарыстаннем багатага ілюстрацыйнага матэрыялу сучасных карпусоў тэкстаў польскай і рускай моваў. У кнізе ёсць таксама практыкаванні і адказы да іх, польска-рускі слоўнік агульнаўжывальнай лексікі.

Кніга прызначана для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцяў ВНУ і перакладчыкаў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр. Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (вул. Янкі Купалы, 27).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by, halijafy.by і e-kniga.by.

# Быць ці не быць літаратурным крытыкам?

**26 лістапада ў музеі Петруся Броўкі адбылося ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу «Экслібрыс» імя Антона Луцкевіча. Прадстаўнікі розных краін і пакаленняў, крытыкі і літаратуразнаўцы абмеркавалі лёс свайго рамяства.**

У сустрэчы ўзялі ўдзел: сябры журы конкурсу, навукоўцы Ірына Шаўлякова (мадэратарка вечара) і Ціхан Чарнякевіч, старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч, пераможцы сёлетняга «Экслібрысу» Антось Уласенка, Алена Карп, Дар'я Латышава і Паліна Піткевіч. Спецыяльнай госцяй літаратурнай дыскусіі стала шведская пісьменніца, журналістка, крытык, намесніца старшыні Шведскага саюза пісьменнікаў Ульрыка Шарнборг. Перакладала са шведскай мовы на беларускую Наста Лабада.

Віншаванне пераможцаў стала нагодай для літаратурных крытыкаў абмеркаваць будучыню сваёй прафесіі. Ірына Шаўлякова адразу адзначыла, што дыскусія будзе незвычайнай:

– Мы з вамі павінны зараз разважаць аб будучыні таго, каго ніхто не любіць. Калі вы больш-менш сочыце, што гавораць аб крытыцы апошнія 20 гадоў, вы ведаеце, што многія жадаюць ёй смерці. У спробах выявіць парадыгму ў гісторыі беларускай крытыкі Ірына Шаўлякова папрасіла Барыса Пятровіча параўнаць беларускую крытыку 1980-х з сучаснай.

– Я заўважаю, што колькасць аўтараў і артыкулаў была значна большай, – адзначыў Барыс Пятровіч. – Ды і аўтары больш уважліва чыталі творы, параўноўвалі іх з іншымі, рабілі больш глыбокі аналіз. Зараз тэкст пішацца менавіта пра адзін твор, крытыкі не імкнуцца прааналізаваць больш шырока. Магчыма, на гэта паўплывала эпоха інтэрнэту, дзе матэрыял успрымаецца па-іншаму.

– Зараз крытыку, мне падаецца, можна падзяліць на экспертную і карыстальніцкую, – выказала меркаванне Ірына Шаўлякова. – Крытыка паступова перамяшчаецца ў інтэрнэт, дзе «кожны суслік у полі аграном».

Але ж Ірына адзначыла, што ўдзельнікі «Экслібрысу» гэтага года дэманстравалі талент і веды экспертных крытыкаў. Таму мадэратарка звярнулася з пытаннем да Антона Уласенкі:

– У вас на даволі невялікай плошчы артыкула размешчаны некалькі культурных пластоў, некалькі эпох, некалькі даследчых традыцый. Вы звязваеце перспектыву развіцця крытыкі з нейкімі грунтоўнымі даследаваннямі альбо лічыце, што яна набудзе фармат, які наша пакаленне, магчыма, яшчэ не бачыць?

– Я таксама назіраю тэндэнцыю да спрашчэння, – прызнаўся Антон, – але мне самому падабаецца больш грунтоўная крытыка. Больш за ўсё прываблівае крытыка, якая дапамагае чытачу зразумець аўтара.

Ціхан Чарнякевіч выказаў думку, што вялізны матэрыял – не заўсёды добра для чытача:

– Здаецца, межы сфер размыты. Ва ўсіх жанрах шмат мітуслівай балбатні. І людзі не могуць падысці да вершыка ці да рамана, не нагарадзіўшы 50 старонак. Лічу, што мікракрытыка незаслужана забытая. Наконт рэцэнзій у інтэрнэце – цяжка іх параўноўваць з кніжнымі артыкуламі. Часцей за ўсё гэта «ўсхліпы». Гэта нават не анатацыі – часцей водгукі.

Спадарыня Ульрыка распавяла, што ў Швецыі зараз маюць месца працэсы, падобныя да тых, якія назіраюцца ў Беларусі: – Можна сказаць, што ў Швецыі мы назіраем крызіс літаратурнай крытыкі. Гэта, у першую чаргу, звязана з тым, што друкаваныя выданні маюць эканамічныя праблемы. Безумоўна, у многіх краінах нельга выжыць толькі за кошт таго, што ты пішаш літаратурную крытыку. Але ў Швецыі літаратурны крытык – гэта звычайная прафесія. Таксама ёсць тэндэнцыя, што крытычны твор скарачаецца па аб'ёме...

Напрыканцы размовы пытанне, ці ёсць будучыня ў літаратурнай крытыкі, засталося без адказу. Аднак усе пагадзіліся на тым, што пакуль ёсць чытацкі попыт, ёсць практыка замоваў рэцэнзій у рэдакцыях, то будзе расці і развівацца і сама гэтая з'ява.

**Алена Босава, для lit-bel.org**

■ АЎТОГРАФ

# «...Верш нельга ўціскаць у нейкія рамкі»

*(Пачатак на стар. 1)*

Першае – выбар твора. Лепей перакладаць сучаснікаў, бо ёсць магчымасць звязацца з аўтарам і высветліць незразумелыя моманты. Чым старэйшы твор, тым цяжэй расчытаць кантэксты, тым больш пабочнай працы ўзнікае: трэба вывучыць эпоху, у якой жыў пісьменнік, у якія кавярні хадзіў, якія фільмы глядзеў, што было папулярна, якія былі палітычныя абставіны і г. д. Калі перакладчыку не падабаецца аўтар, лепш не брацца за працу. Нічога добрага з гэтага не атрымаецца.

Другі момант – беспасярэдняя праца з тэкстам. Патрэбна не проста прачытаць раман ці паэму, а зразумець усё, што хацеў сказаць аўтар, чаго не сказаў, а недзе паправіць і памылкі аўтара, каб пераклад быў зразумелы чытачом.

Часам для таго каб перакласці слова ці выраз, трэба перакапаць не адзін дзясятак слоўнікаў і энцыклапедыяў, каб знайсці, наколькі гэта магчыма, дакладны адпаведнік.

Пажадана прачытваць уголас калі не арыгінал, то хаця б свой пераклад, бо на гэтым этапе выяўляецца шмат памылак і арфаграфічных, і стылёвых. Асабліва гэта датычыцца паэзіі.

Апрача ўсяго, перакладчык павінен мець прафесійную інтуіцыю, і калі пасля прачытання перакладу застаюцца нейкія сумненні, лепей лішні раз звярнуцца да слоўніка, але выправіць недакладнасць.

**– Вы адзін з заснавальнікаў і аўтар тэкстаў песняў музычнага гурта «аРБа», які часта выступае на літаратурных вечарынах. Якое месца ў Вашай творчасці займае музыка?**

– Як кажуць, усё было даўно і няпраўда. Цяпер я амаль не спяваю і не выступаю з гуртом. Засталіся старыя песні, час ад часу мяне запрашаюць як аўтара-выканаўцу, я не адмаўляюся, але гэта цяжкавата назваць музыкай, хутчэй вершам у суправаджэнні гітары. Наогул, для мяне верш стаўся нечым вельмі інтымным, тым, што не выстаўляецца напаказ. Цяпер мне падаецца, што верш нельга ўціскаць у нейкія рамкі, ён павінен гучаць свабодна, незалежна ад якіх-кольвек правілаў. Галоўнае – сказаць тое, што хацеў, а як – неістотна. Хоць у форме каліграмы-квадрата з незразумелых сімвалаў і знакаў. І кожны робіць гэта па-свойму. Нехта практыкуе галасавую паэзію, нехта spoken word, нехта дасюль піша класічныя вершы. Як і ў музыцы, ёсць розныя жанры і кірункі, але ўсё гэта ўмоўнасці. Галоўнае, каб таленавіта. У пэўны момант я палічыў, што калектыўная творчасць не для мяне, і давялося рабіць выбар паміж песняй і вершам. Скажу, што гэта было вельмі цяжка, і я вырашыў не пакідаць спеўную творчасць, у тым сэнсе, што магу напісаць тэкст-другі, калі папросяць, магу трошкі паспяваць сам, але цяпер я больш засяроджаны на перакладах, прозе і, у апошнюю чаргу, на вершах. Але музыка дасюль дапамагае. Я вельмі люблю яе слухаць, асабліва сваіх сяброў-музыкаў, сачу за іх творчымі поспехамі.

**– Вы сябра літаратурнай суполкі «Літаратурнае Прадмесце», удзельнік паэтычнага тэатра «Арт.С». Наколькі важна маладому творцу быць пачутым, заўважаным і мець магчымасць параіцца са старэйшым майстрам слова?**

– Калі ты яшчэ зялёны, нявопытны аўтар, вельмі важна быць не столькі пачутым, як зразуметым. Я думаю, што маладому творцу варта шмат чытаць старэйшых калег і не толькі старэйшых, але і паспяховых аднагодкаў, наведваць майстар-класы, набірацца досведу. І яшчэ адзін істотны момант – трэба арыентавацца на чытача і мець магчымасць параіцца перадусім з ім. Добра, калі ў цябе ёсць пару знаёмых, якія маглі б выказаць сваё меркаванне наконт таго ці іншага твора, каб ведаць у якім кірунку рухацца.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Барыс Сачанка. Пад сузор'ем сярпа і молата. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 77). – 548 с.**

Кніга змяшчае тэксты, напісаныя Барысам Сачанкам у апошнія гады жыцця. Адкрывае зборнік аўтабіяграфічная аповесць «Засталіся толькі ўспаміны...» – пра ваеннае дзяцінства ў вёсцы Вялікі Бор, паўсядзённае жыццё на акупаванай тэрыторыі, а пасля спаленне вёскі і высылку насельніцтва на працы ў Германію. Гэта, зрэшты, і адзіны дастаткова аб'ёмны тэкст у зборніку. Асноўная частка кнігі – мемуарныя нататкі і літаратурныя запісы з часоў працы Барыса Сачанкі ў рэдакцыі часопіса «Полымя» (1960–1976), узгадкі пра выдатных пісьменнікаў і цяжкі ход рэбілітацыі рэпрэсаваных, які распачаўся пасля XX з'езду КПСС і выкрыцця культу асобы Сталіна.

Артыкулы, эсэ, дзённікавыя запісы, мініяцюры Барыса Сачанкі, сабраныя ў кнізе, друкаваліся ў часопісах «Крыніца», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ». На той бурлівы час пачатку 1990-х яны былі надзвычай прыкметныя, бо змяшчалі невядомыя факты з беларускай гісторыі, у тым ліку і перш за ўсё – гісторыі беларускай літаратуры. З упэўненасцю можна сказаць, што гэтыя факты і цяпер недастаткова засвоеныя і ўсім даступныя. Архівы сталінскага тэрору зноў надоўга зачыніліся, эміграцыйная літаратура па-ранейшаму не выдаецца дзяржавай, а таму чытанне апошняй, насычанай фактамі, кнігі Барыса Сачанкі прынясе немалую асалоду і даследчыку-літаратуразнаўцу, і гісторыку, і ўрэшце, кожнаму, хто цікавіцца літаратурай.




**Свэн Нурдквіст. Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 12). – 32 с.**

Новая кніга для дзетак і іх бацькоў, працяг гісторый пра дзядулю Пэтсана і кацянятка Фіндуса пабачыла свет у серыі «Каляровы ровар». Казка шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста, перакладзеная Надзеяй Кандрусевіч, ужо чакае сваіх чытачоў на паліцах мінскіх кнігарняў. Сімпатычныя і забаўныя героі Пэтсан і Фіндус, якія ажылі на старонках кніг шведскага аўтара, не маюць патрэбы ў прадстаўленні – яны вельмі папулярныя па ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі, і казкі пра іх пераствораныя больш чым на 30 моў. Вядома ж, не абыдзецца без авантураў і прыгод, падчас якіх Фіндус дазнаецца шмат новага пра навакольны свет, поўны цікавых раслінаў і жывёл, а таксама знойдзе новых прыяцеляў – фантазійных істотак мюклаў, нечым падобных на маленькіх добрых гномаў, якія ратуюць усіх, каму патрэбная дапамога.

На нашай роднай мове выйшлі кнігі «Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды», пасля – «Блінны торт». А цяпер серыя для дзяцей «Каляровы ровар» працягваецца гісторыяй «Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі». З яе юныя чытачы і чытачкі даведаюцца, як пазнаёміліся і пасябравалі дзядуля Пэтсан і ягоны ўлюбёнец коцік Фіндус. Выданне шыкоўна ілюстраванае – адно задавальненне трымаць яе ў руках! Казка стане сапраўдным падарункам для ўсёй сям'і.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 41
снежань, 2016
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 41 15.12.2016.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com